*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◈ 14(70) ◈ 8 красавіка 1992 г. ◈ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

РАЗДЗЕЛ АКТЫВАЎ І ПАСІВАЎ ДЗЯРЖБАНКА СССР, ЗАЛАТОГА І АЛМАЗНАГА ФОНДАЎ БЫЛІ АБМЕРКАВАНЫ НА КАНСУЛЬТАТЫЎНАЙ НАРАДЗЕ КІРАЎНІКОЎ НАЦЫЯНАЛЬНЫХ БАНКАЎ СНД, ШТО АДБЫЛАСЯ Ў МЕНСКУ. На 20 красавіка намечана новая сустрэча, у час якой будзе разглядацца пагадненне аб умовах і парадку ўвядзення нацыянальных валют.

*У ЗАСЛАЎІ ПАД МЕНСКАМ ПРАВЕДЗЕНА НАРАДА МІНІСТРАЎ АХОВЫ ЗДАРОЎЯ І ГАЛОЎНЫХ САНІТАРНЫХ УРАЧОЎ СНД. Абмеркаваны міждзяржаўныя пагадненні ў галіне аховы здароўя і іншыя праблемы.*

ПАВЫСІЛАСЯ СМЯРОТНАСЦЬ НАСЕЛЬНІЦТВА МЕНСКА. Галоўны дзяржаўны санітарны ўрач горада лічыць асабліва небяспечным выпраменьванне сценамі дамоў радону, уздзеянне якога на чалавека раней амаль не вывучалася.

*КАБІНЕТ МІНІСТРАЎ УКРАІНЫ ПРЫНЯЎ ПАСТАНОВУ АБ МЕРАХ ПА ВЫВАДУ ЧАРНОБЫЛЬСКАЙ АЭС З ЭКСПЛУАТАЦЫІ.* Першы і трэці энергаблокі павінны быць спынены ў 1993 годзе. Другі энергаблок стаіць ужо з мінулага года.

ХОД ВЫКАНАННЯ зямельнай рэформы, якая, як вядома, па-ранейшаму буксуе, разгледжаны на пасяджэнні Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

*У МЕНСКУ ПРАВЕДЗЕНЫ МІТЫНГ, ПРЫМЕРКАВАНЫ ДА ГАДАВІНЫ ЛЕТАШНІХ КРАСАВІЦКІХ ПАДЗЕЙ.* Яго арганізавалі гарадскі стачкам і савет свабоднага прафсаюза. Выступілі народныя дэпутаты Рэспублікі Беларусь Сяргей Антончык і Зянон Пазьняк, сустаршыня Менскага стачкама Георгій Мухін, актывісты БНФ і свабоднага прафсаюза. У той жа час на плошчы Незалежнасці сабраліся і людзі з чырвонымі сцягамі. Паміж ідэалагічнымі праціўнікамі пачалася сутычка, якую вымушана была спыніць міліцыя.

Арганізатары мітынгу заклікалі яго ўдзельнікаў рыхтавацца да агульнарэспубліканскай палітычнай акцыі — стачкі ці якой-небудзь іншай формы пратэсту.

ПРАЦЯГВАЮЦЬ ЗАБАСТОЎКУ ШАХЦЁРЫ САЛІГОРСКА. Некалькі з іх, уключаючы і старшыню незалежнага прафсаюза І. Юргевіча, аб'явілі галадоўку. Яны патрабуюць падпісання ўрадам тарыфнага пагаднення, адстаўкі В. Кебіча і А. Падлескага, генеральнага дырэктара аб'яднання «Беларуськалій».

ГРУПА ДЭПУТАТАЎ Менскага гарсавета выказала недавер свайму кіраўніцтву і запатрабавала перавыбараў старшыні і яго намеснікаў.



## *Рэформу правапісу нельга адкладваць*

Стар. 2.

## «Галоўнае — людзі скінулі з сябе ланцугі і путы сацыялістычнай ідэалогіі»

Стар. 3.



У Гродне адкрыта дашкольная гімназія для 5—7-гадовых дзяцей. Тут яны спасцігаюць асновы дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва, беларускую мову. Малышоў знаёмяць з Бібліяй, начаткамі этыкі, эстэтыкі. Пасля заканчэння курса навучання кожны атрымае пасведчанне з ацэнкамі па прадметах.

На здымках: 1) гімназістка Юля Крыварогава; 2) заняткі з юнымі гімназісткамі вядзе педагог Ірына Кузьмінічна Кляцкова.

Фота Валерыя АЛЯШКЕВІЧА. (БелТА).

20 лютага г. г. у Брэсцкім гарвыканкаме афіцыйна зарэгістравана таварыства «Стары горад». Пра яго заснаванне «Наша слова» ўжо паведамляла.

БІС.

## З НАДЗЕЯЙ АБАРАНІЦЬ ДЗЯРЖАВУ

На Беларусі створаны Антыкрызісны камітэт. Прадстаўнікі розных палітычных партый, дзяржаўных установ, грамадскіх арганізацый (у тым ліку ТБМ імя Ф. Скарыны) падпісалі пагадненне «Аб сумесных дзеяннях пры ўзнікненнях пагрозы суверэнітэту Рэспублікі Беларусь».

З ініцыятывай антыкрызіснага пагаднення выступіў патрыятычны рух Беларускага згуртавання вайскоўцаў. Вось што расказвае з гэтай нагоды старшыня БЗВ падпалкоўнік Мікалай Статкевіч:

— На Беларусі ідзе жорсткая палітычная барацьба. Але яна павінна весціся ў межах закону. І калі існуе знешняя пагроза, калі небяспека будзе зыходзіць з боку суседніх дзяржаў, то хіба варта тады нешта дзяліць.

З нагоды падпісання антыкрызіснага пагаднення ў Доме літаратара і сабраліся разам удзельнікі гэтай акцыі. Удзел у сустрэчы прыняў і Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. Шушкевіч, які далучыўся да падпісання антыкрызіснага пагаднення.

Кіраўнік парламента звярнуўся да прысутных з кароткім каментарыем падзеі:

— Я ў захапленні ад таго, што ідэя стварэння Антыкрызіснага камітэта ўзнікла знізу... Настаў час, калі нельга гуляць ні ў якія палітычныя гульні. Пагроза суверэнітэту існуе ўжо зараз. Я маю на ўвазе тых, хто мітынгуе ў Віцебску, я маю на ўвазе тых, хто ад імя Макашова і кампаніі збірае подпі-

*(Заканчэнне на с. 2).*

*З рэдакцыйнай пошты*

*Ліст з Каліфорніі (ЗША)*

# Трэба спяшацца

Справа змены правапісу нас на эміграцыі вельмі трывожыць. Па-першае, не можам даведацца, што ў гэтай галіне робіцца, бо з Беларусі вельмі мала вестак. Па-другое, з гэтай скупой інфармацыі, якую мы маем, адчуваем, што розныя «вучоныя» выказваюцца супраць «павароту назад», да «тарашкевіцы». І тут чуем усякія аргументы, што яна недасканалая, што не трэба спяшацца...

Нам вядома недасканаласць «тарашкевіцы», але часу няма. Змена русіфікатарскіх «рэформаў» — гэта павінен быў быць першы крок культурнага адраджэння. Аднавіць беларускі правапіс, ці гэта правапіс Тарашкевіча, ці падобны, да таго стану, што быў напачатку 30-х гадоў,— гэта акцыя такой важнасці, што яе нельга даўжэй адкладаць.

І гэта не будзе «паварот назад», а аднаўленне народнага, прынятага ўжо і ўжыванага на эміграцыі ўвесь час (хаця гэта не істотна) правапісу. Бо толькі пасля «збеларушвання» правапісу можна прыступаць да беларусізацыі школы і наогул грамадскага жыцця.

А далейшае ўдасканаленне — гэта ўжо справа мінімальная ў параўнанні да першае змены — аднаўлення.

Вельмі балюча было прачытаць у лісце маёй менскай знаёмай пра роспач што да пагарды беларушчынай у вясковых беларусаў. Таму якраз з культурным адраджэннем, з узгадаваннем моладзі ў нацыянальным духу — трэба спяшацца. Бо інакш дэградацыя атруціць усю краіну. Спадзявацца версіі Ірландыі ці Аўстрыі не можам. Абставіны ў нас іншыя: няма моцнай нацыянальнай царквы (як у Ірландыі) або захаваных гістарычных традыцыяў (як у Аўстрыі). Ды ворагі беларускасці далёка не такія ліберальныя, як тыя англічане або немцы.

Дык калі гісторыя нас давяла да «радыкальнага» становішча, дык і «лякарствы» павінны быць больш радыкальныя.

Пэўна, пры настойлівасці з нашага боку можна спадзявацца, што за гадоў дваццаць жыхары беларускага сяла пазбудуцца тое пагарды да свайго. А можа і раней. Вяскоўцы, што пагарджаюць сваім,— гэта тыя, што надыхаліся «імперскай свядомасці» і шануюць толькі сілу. Прыйдзе іншая сіла — яны будуць шанаваць яе. Нічога канструктыўнага такія людзі не прыносяць. Вядома, дзесяцігоддзі дыктатуры ўзгадавалі шмат такіх людзей. Дык, наогул, каб зрабіць уплыў на такіх людзей, трэба пераймаць гэту дзяржаўную сілу, чым хутчэй, тым лепш.

Спадар Стапановіч прапануе (артыкул «Крок да Эўрапейскага супольніцтва» ў часопісе «Навіны Беларускай акадэміі» ад 31 мая 1991 г.) перайсці на змадэрнізаваную лацінку. Падыход ідэальны, шмат каму падабаецца, але будзем рэалістамі: пры цяперашняй заскарузласці нашых «вучоных» будзем цешыцца, калі вернем у літаратурную мову мяккія знакі ды канчаткі («народ-у», «у сад-ох»). Незалежныя газеты, як «Свабода», «Наша ніва» і «Навіны БНФ» ужо карыстаюцца такім правапісам. Проста прыемна чытаць тэкст гэтых выданняў, хаця б дзеля чысціні мовы.

**Юрка СТАНКЕВІЧ.**
**Каліфорнія, ЗША.**

## З надзеяй абараніць дзяржаву

*(Заканчэнне. Пачатак на с. 1).*

сы ў абарону непадзельнага Саюза. Лёгка ўводзіць народ у зман, сцвярджаючы, што раней было лепей... Мы ж павінны ісці па шляху кансалідацыі.

На сустрэчы быў абраны старшыня Антыкрызіснага камітэта. Ім стаў Старшыня Савета Міністраў РБ В. Кебіч. Была створана Выканаўчая Рада дзеля пошуку форм работы, канкрэтных мер у выпадку крызіснай сітуацыі. Кіраўніцтва Выканаўчай Радай ускладзена на старшыню БЗВ палкоўніка М. Статкевіча.

Пасля сустрэчы ўдзельнікаў падпісання адбылася прэс-канферэнцыя для журналістаў. Газетчыкаў найперш цікавіла, які сэнс прадстаўнікі Антыкрызіснага камітэта надаюць тэрміну «пагроза суверэнітэту», каго бачаць у якасці ворагаў. Слушны адказ на гэта пытанне даў Зянон Пазьняк:

— Ствараючы камітэт, мы ствараем гарантыі бяспекі. Кансалідацыя ж ва ўмовах унутранага крызісу немагчыма. Вось таму і аб'ядноўваемся мы з надзеяй абараніць дзяржаву, калі раптам прыйдзе бяда. Ад унутранай ж палітычнай барацьбы цывілізаванымі сродкамі ніхто не адмаўляецца.

Адказ старшыні БНФ дапоўніў кіраўнік Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Міхась Ткачоў:

— Пагадзіцеся, што ў нас няма ніякіх гарантый для абароны. На Беларусі адсутнічае сваё войска. Камандуючы акругі пагадненне не падпісаў. Фонд сацыяльнай абароны ваеннаслужачых не падпісаў... Таму і патрэбна кансалідацыя, аб'яднанне ўсіх сіл.

Цікавае пытанне задаў карэспандэнт газеты «Добры вечар»: «Ці не лічаць шаноўныя спадары, што пагроза дзяржаўнаму суверэнітэту існуе і знутры? Маю на ўвазе русіфікаваную школу, а таксама ўсё астатняе асяроддзе, што выхоўвае ў нас нацыянальную ментальнасць...»

І хаця старшыня Выканаўчай Рады Мікалай Статкевіч заўважыў, што гэта з'яўляецца клопатам не Антыкрызіснага камітэта, а кожнага руху, кожнай партыі паасобку, яму запярэчыў народны дэпутат Вярхоўнага Савета РБ Яўген Цумараў, які прадстаўляў ТБМ імя Ф. Скарыны:

— Расія і іншыя рэспублікі былога СССР маюць вялікія магчымасці ўздзейнічаць на свядомасць людзей праз сродкі масавай інфармацыі. І мы не можам не заўважаць гэтага. Неабходна ўсяляк праз друк, радыё, тэлебачанне ўмацоўваць тэму патрыятызму, нацыянальнага суверэнітэту.

Пакуль зроблены першы крок да кансалідацыі, да нацыянальнай згоды. Наперадзе ў Антыкрызіснага камітэта — няпростая праца па прыцягненню да ідэі паяднання палітычных і грамадскіх рухаў Беларусі, па стварэнню такіх умоў, пры якіх і суседзі і шмат хто яшчэ задумаюцца: навошта трывожыць, непакоіць беларусаў — аб'яднаную, згуртаваную, цвёрдую ў сваім адзінстве нацыю.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

*Але!*

### З чаго смяецца «Крок»

26 сакавіка па беларускім тэлебачанні ў перадачы «Крок» гледачы змаглі пазнаёміцца з яго спецвыпускам «Жарт-крок». Жарту, на маю думку, не атрымалася. Магчыма, я і памыляюся, але... мне не было смешна. Да ўсяго ў «Жарт-кроку» я заўважыў (ды не толькі я) непрыхаваную насмешку над Днём Волі, які адзначаўся напярэдадні, 25 сакавіка. Магчыма, у час гэтай перадачы ў маёй душы сядзеў «нацыяналіст», які пільна сачыў, каб, крый Божа, ніхто не пасмяяўся над беларусамі і іх радзімай. Магчыма, і не, але, галоўнае,— я не мог змірыцца з тым, што Беларусь, хай і «жартуючы», называюць «сувенірнай рэспублікай». Хопіць з нас тых здзеклівых назваў, якія ўжо былі ў гісторыі Беларусі. Праўда, калі б аўтар, які пісаў тэксты для артыстаў, быў свядомым грамадзянінам сваёй радзімы, ён напісаў бы так, што «сувенірная рэспубліка» ўспрымалася б не як насмешка, а як перасцярога таго, што можа здарыцца, калі мы не будзем дбаць пра нацыянальнае Адраджэнне. Але гэтага не атрымалася, а наадварот. Падумайце самі, што тут смешнага, калі ў кнігарнях незалежнай краіны побач з такімі кнігамі, як «Руска-англійскі размоўнік», «Руска-нямецкі размоўнік» прадаецца «Руска-беларускі размоўнік», які склаў А. Міхневіч. Нічога смешнага. Ды не, аказваецца можна і трэба смяяцца з тых «дзядзечкаў», якія «накаўбасілі» гэтую, на думку вядучага, «кніжачку», якая нікому не патрэбна, акрамя самога аўтара, што атрымаў за яе грошы. Вось так!

Да ўсяго ў нас не толькі смешныя выдаюцца размоўнікі, але хапае ў нашым парламенце дэпутатаў, якія толькі для сваіх нейкіх карыслівых мэт дбаюць і патрабуюць, каб выконваўся закон аб дзяржаўнасці беларускай мовы. Аўтар сцэнкі пра смешных дэпутатаў вуснамі артыста гаворыць: «Калі перавесці «мясокомбинат» на беларускую мову, ён ад гэтага не перастане ваняць». Няўжо такую палітыку прапагандуе «Крок»? Ці гэта ў яго такія «чорныя» жартачкі?

У «Жарт-кроку» было яшчэ шмат «смешнага»: шкада, што сцэнкі выконваліся артыстамі, якія сваімі талентамі заваявалі нашу любоў і павагу.

В. Ш.

# EST MODUS IN REBUS — *ёсць мера ў рэчах*

Гэтае старажытнае выслоўе хацеў бы я нагадаць тым руплiўцам роднае мовы, што прагнуць вяртання «тарашкевіцы», беларускае лацінкі ды назовы «Літва». Усе гэтыя намаганні стаяць у адным шэрагу са стварэннем «заходнепалескай» мовы і ані каліва не спрыяюць росту нацыянальнае свядомасці беларусаў.

Якая дзіўная логіка: не падтрымліваеш «тарашкевіцу» — значыць, ты з тымі, хто рэпрэсіраваў Б. Тарашкевіча. Скептычна ставішся да лацінкі — мусіць, не паважаеш К. Каліноўскага, бо лацінкаю друкавалася «Мужыцкая праўда». Лічыш утапічным называць цяпер край Літвой — вызнаеш сябе за рускага, толькі што «белага». Логіка, аднак, знаёмая — ёю кіраваліся куслівыя ідэалагічныя харты: шануеш бел-чырвона-белы сцяг і «Пагоню» — значыць, ухваляеш фашысцкіх паслугачоў. Звычайны бальшавізм на левы бок.

Матывы дзеля настойлівага прапагандавання гэтых рэанімацыйных задум розныя; частку іх назваў у сваім артыкуле сп. Э. Ялугін. Кожны чалавек павінны неяк сцвердзіць сябе — гэта зарука яго псіхалагічнага камфорту. Самасцвярджэнне можа ісці рознымі шляхамі. Не сакрэт, што ў віцебскім «Узгор'і», гомельскае ды менскае «Талоках», гарадзенскае «Паходні» ды іншых прысутнічае пэўны кантынгент такіх членаў (менавіта так, не сяброў), якім дужа карціць самасцвердзіцца выношваннем ды перыядычным выказваннем эпатажных ідэй. Яны не абыходзілі кватэры, агітуючы за беларускія школы, калі яшчэ не было Закону; яны ніколі глыбока не цікавіліся беларускай гісторыяй; яны не клеілі ўлётак падчас вясновых выбараў 1990 года, а зараз наўрад ці збіраюць подпісы ў падтрымку рэферэндуму; яны ўвогуле могуць рэгулярна наведваць усе пасяджэнні і за некалькі гадоў так і не авалодаць беларускай мовай. Яны могуць падкінуць смелыя ідэі, але ніколі не возьмуцца за іх рэалізацыю. А «крутая» ідэя цепліць душу і, як здаецца яе носьбітам, дадае павагі з боку свядомых.

Але ж галоўная, на маю думку, прычына спроб рэанімацыі — тае ж прыроды, калі апантаны навуковец увесь свет успрымае праз прызму сваёй дысертацыі. Шмат хто з нас, гадамі і дзесяцігоддзямі змагаючыся за Мову, крок за крокам удасканальваючыся ў ёй, пачаў лічыць свае асабістыя прынцыпы за норму для ўсіх.

Ды не ігнаруйма рэчаіснасць, спадарове! 99 % грамадзян Беларусі вучылі ў школе, чыталі і чытаюць, карыстаюцца, як вы яе ахрысцілі, «наркамаўкай». Выданне «Навінаў Адраджэньня», «Свабоды» і «Бярозкі» «тарашкевіцай» выклікае ў паспалітых людзей толькі «сьмех» і ніяк не ўплывае на фармаванне «новага мысленьня». Збіраючы подпісы ў падтрымку рэферэндуму, мне балюча глядзець, як людзі са здзіўленнем чытаюць зварот «Да грамадзян Беларусі» і як іх твары пры гэтым робяцца несур'ёзнымі. А прычынай усяму — менавіта архаічны правапіс звароту. Ну нельга ж да такой ступені не лічыцца з існуючым становішчам!

Было б крывадушным заявіць, што ў нашых вучняў, настаўнікаў, акцёраў, дыктараў і г. д. усё гладка з маўленнем. Але ж не вяртаннем да «тарашкевіцы» можна гэта пераадолець. Трэба проста вучыць правільнаму вымаўленню, тлумачыць правілы. Наспеў час прызнаць нарэшце, што прынцып «як пішацца, так і вымаўляецца» на 100 % рэалізаваць немагчыма. Нават у эсперанта — штучнай мове, якая стваралася нашым земляком свядома і таму, чакалася б, павінна быць пазбаўлена недахопаў стыхійнага фарміравання нацыянальных моў — дапускаецца асіміляцыя, а значыць, памянёны прынцып не захоўваецца. Дык, можа, задаволімся тым, што з натуральных моў гэты прынцып найболей рэалізаваны ў нашай роднай?

*Est modus in rebus* — ёсць мера ў рэчах, і няхай не станецца выратавальным адказ алкаголіка: маўляў, мера ў кожнага свая. Праз тысячагоддзі гэтую ісціну паўтарае Язэп Драздовіч («ЛіМ», 13.03.92) у сваім дзённіку: «І фанатыкі, і бязбожнікі — адной маткі дзеці, крайнасці... Няма жыцця ў крайнасцях... Толькі між агнём і марозам усё жывець, усё расцець, усё цвіцець, развіваецца, красуецца».

**Уладзімір СЛАБІН.**
**г. Віцебск.**

# Самая прыгожая на свеце

Пішу першы раз. Мяне завуць Саша. Вучуся ў дзевятым класе. Я хачу пасябраваць з вамі. Беларускую мову лічу роднай, яна для мяне здаецца самай прыгожай на свеце.

Газета «Наша слова» мне падабаецца, але пакуль атрымаў толькі тры нумары. Я згодзен з Сярожам Петрыкевічам, артыкул якога быў надрукаваны ў сёмым нумары за гэты год. Многія беларускія газеты могуць друкавацца на беларускай мове. У школах таксама замежную мову, этыку, агляд прафесій можна вывучаць па-беларуску. Хацелася б па радыё, па тэлевізары чуць больш перадач на роднай мове.

**Саша АДАМКОВІЧ.**
в. Зорка Шаркаўшчынскага раёна.

*Актуальнае інтэрв'ю*

# Не забыцца пра зямлю, дзе магілы продкаў

***Імя паэта Станіслава Валодзькі, які нарадзіўся ў вёсцы Падольцы Астравецкага раёна і апошнія шэсць гадоў па волі лёсу жыве і працуе на чыгунцы машыністам пуцявой машыны ў латвійскім горадзе Даўгаўпілсе, вядома беларускаму чытачу па зборніку паэзіі «Сцяжына», а таксама па публікацыях у беларускіх часопісах і газетах.***

***Нядаўна паэт прыязджаў у Менск. З ім сустрэўся наш карэспандэнт і задаў яму некалькі пытанняў.***

**— Стась, як атрымалася, што ты апынуўся ў Латвіі і там жывеш?**

— У Латвію мяне пацягнула рамантычная праца на чыгунцы. Бываючы ў камандзіроўках, я маю магчымасць наведваць розныя мясціны былога Саюза і сустракацца з цікавымі людзьмі. Адгулы за звышурочную работу выкарыстоўваю для працы над сваімі творамі і грамадскай дзейнасці. Дзякуючы рабоце на чыгунцы, я сустрэў свой лёс — жонку Вольгу.

**— Хто твая жонка і кім працуе? Як яна адносіцца да тваёй творчасці і да беларускай мовы?**

— Жонка мая па нацыянальнасці руская, карэнная жыхарка Даўгаўпілса. Працуе настаўніцай пачатковых класаў. Да маёй творчасці, як і да беларускай мовы; адносіцца вельмі стрымана, але апошнім часам стала разумець маю трывогу за родную зямлю і мову.

**— Ці існуе нацыянальнае пытанне ў Даўгаўпілсе?**

— Асабіста я з боку мясцовых латышскіх улад уціску не адчуваю. Да мяне латышы адносяцца так, як я адношуся да іх. А вось на рабоце часам адчуваю прэсінг з боку суайчыннікаў-начальнікаў. Чатыры гады назад мяне вольнілі з работы, быў вернуты на сваё месца органамі пракуратуры. У нашым горадзе нацыянальнага пытання амаль не існуе. Працэнт латышскага насельніцтва ў Даўгаўпілсе невялікі — 13%. Многа жыве рускіх, палякаў. Беларусаў у Даўгаўпілсе — 11 тысяч.

**— Ці ўсведамляюць беларусы Даўгаўпілса, хто яны і адкуль?**

— Доўга беларусы нашага горада не праяўлялі нацыянальнай свядомасці. Аднак апошнім часам некаторыя з іх задумваюцца над нацыянальнымі праблемамі. У Даўгаўпілсе свядомыя беларусы стварылі сваё нацыянальна-культурнае таварыства. Яно пакуль нешматлікае, але, галоўнае,— пачатак ёсць. Нядаўна на першай канферэнцыі беларусаў Даўгаўпілскага краю жаданне дапамагчы нам выказала гарадская ўправа. Рады падтрымаць нас і беларусы на Бацькаўшчыне, пра што паведаміў паэт Сяргей Панізнік, які выступіў на канферэнцыі. Спадар Панізнік курыруе культурнае жыццё беларусаў у Латвіі.

**— Як прайшла канферэнцыя?**

— З дакладам пра гісторыю жыцця беларусаў у Латгаліі выступіў супрацоўнік краязнаўчага музея спадар А. Гульбэ. Ён зазначыў, што ў трыццатыя гады ў Даўгаўпілсе была беларуская гімназія. (Некалькі былых гімназістаў прысутнічалі на канферэнцыі). Спадар Я. Шугаўс, намеснік старшыні гарадской управы па культуры, паведаміў, што для правядзення сваіх мерапрыемстваў беларусам выдзелена памяшканне. Было выбрана праўленне таварыства, якое ўзначаліў спадар К. Капуста. Я таксама ўвайшоў у склад праўлення.

**— Як жа называецца ваша таварыства?**

— Па маёй прапанове таварыства назвалі «Уздым». Такая назва, на мой погляд, адпавядае нашаму цяперашняму становішчу грамадскага жыцця. Ідзе працэс абнаўлення краю, адраджэння беларушчыны, абуджэнне ў народзе нацыянальнай годнасці.

**— Ты ў Латвіі не адчуваеш сябе эмігрантам?**

— Не. Тыя, хто працуе ў Латвіі па пяць, па дзесяць гадоў, не лічаць гэтую краіну чужой. Праўда, у многіх з нас жыве дух былой імперыі, адчуванне, што «мой адрас — не дом і не вуліца, мой адрас — Савецкі Саюз». Для мяне ж Латвія стала другой радзімай, хоць я не забываюся пра зямлю, у якой магілы маіх продкаў.

**— Я ведаю, што ў Менску ты быў год назад. Тады Беларусь ішла нялёгкім шляхам да сваёй незалежнасці. Цяпер і Беларусь і Латвія незалежныя краіны. Як на твой погляд: у каго больш дэмакратыі і незалежнасці, у нас ці ў вас?**

— Асаблівых дэмакратычных перамен на Беларусі я не бачу. А мне іх хочацца бачыць, таму нават бел-чырвона-белы сцяг на Доме ўрада для мяне шмат значыць. Зразумела, я заўважыў, што менчукам жыць стала намнога цяжэй, але, галоўнае,— людзі скінулі з сябе ланцугі і путы сацыялістычнай ідэалогіі. Праўда, гэта ідэалогія яшчэ нагадвае аб сабе старымі плакатамі на сценах дамоў, назвамі вуліц і плацаў, імёнамі камуністычных дзеячаў, чаго ў Латвіі ўжо не сустрэнеш.

**— Якім ты бачыш сваё далейшае жыццё ў Латвіі?**

— Хацелася б спадзявацца, і для гэтага ёсць, як мне здаецца, падставы, што жыццё ў Латвіі, як і ў Беларусі, стане стабільным, увойдзе ў рэчышча нармальнага, цывілізаванага жыцця. Толькі для гэтага нам зараз не трэба панікаваць, а праяўляць цярплівасць і мужнасць. У заключэнне нашай гутаркі хачу ад імя беларусаў Даўгаўпілса запрасіць усіх зацікаўленых у супрацоўніцтве з намі да нас у госці, на пасяджэнне «Уздыму», якое збіраецца кожную сераду а 18 гадзіне па адрасу: вуліца Кр. Вальдэмара, 2.

Распытваў **Віктар ШНІП.**

*Чыталі?*

## Будзе карысна кожнаму

*Хто хоча лепш ведаць беларускую мову, валодаць яе багаццем, варта не абмінуць кнігу, што выйшла ў выдавецтве «Народная асвета» ў гэтым годзе. Гаворка ідзе пра 3-е дапрацаванае і дапоўненае выданне дапаможніка А. А. Каўруса «Стылістыка беларускай мовы». Хоць кніга адрасавана настаўніку беларускай мовы і літаратуры (серыя «Бібліятэка настаўніка беларускай мовы і літаратуры»), яна акажа вялікую дапамогу ўсім тым, хто зараз актыўна ўзяўся вывучаць родную мову.*

*Змешчаны тут тэарэтычны і практычны матэрыял будзе садзейнічаць не толькі сістэматызацыі, пашырэнню і паглыбленню стылістычных ведаў, але і развіццю моўнага чуцця, выпрацоўцы стылістычных уменняў і навыкаў. Каб упэўніцца ў гэтым, варта назваць раздзелы: «Функцыянальныя стылі беларускай мовы», «Стылістычныя рэсурсы беларускай мовы». Значны аб'ём кнігі (11, 11 ул.-выд. арк.) даў магчымасць у кожным з гэтых раздзелаў змясціць неабходны тэарэтычны матэрыял і багаты практычны — з твораў вядомых пісьменнікаў, з рэспубліканскіх газет і часопісаў і іншых выданняў. Чытач любога ўзроўню ведаў знойдзе для сябе многа карыснага. Так, у раздзеле «Функцыянальныя стылі беларускай мовы» разглядаюцца гутарковы, навуковы, афіцыйна-справавы, мастацкі і публіцыстычна-прамоўніцкі стылі, а таксама ўзнікненне штампаў.*

*Падзеі апошніх гадоў падштурхнулі многіх не толькі да актыўнага вывучэння беларускай мовы, але і да актыўнага грамадскага жыцця, што праяўляецца ў выступленнях, прамовах на сходах, мітынгах, нарадах, сесіях усіх узроўняў, у багатай чытацкай пошце газет. Такім людзям пэўную паслугу акажа матэрыял тэмы «Публіцыстычна-прамоўніцкі стыль», адкуль яны даведаюцца не толькі пра асноўныя функцыі гэтага стылю (інфармацыя і ўздзеянне), але і пра некаторыя характэрыстыкі тэксту (актуальнасць тэмы; пафаснасць, узнёсласць мовы; наяўнасць слоў, словазлучэнняў, уласцівых публіцыстычнаму стылю).*

*Шырока пададзены стылістычныя рэсурсы беларускай мовы — лексікі, фразеалогіі, словаўтварэння, марфалогіі, сінтаксісу.*

*Чытачу карысна будзе пазнаёміцца і са спісам выдадзенай літаратуры па стылістыцы (даецца ў канцы кнігі), якую ён зможа выкарыстаць у сваёй далейшай рабоце над мовай. Гэта работы Ф. Янкоўскага, М. Цікоцкага, Р. Шкрабы, А. Юрэвіча, В. Краснея, І. Лепешава і інш.*

Г. П.

*Але!* *Але!*

# Ці толькі асабістая справа?..

***Чытачы «Нашага слова» добра ведаюць Анатоля Белага, які кіруе клубам «Спадчына». Нядаўна было змешчана наша інтэрв'ю са спадаром Белым. І ўсё ж мы зноў адважваемся расказаць чытачу яшчэ пра адзін клопат і пра боль старшыні клуба.***

***А здарылася вось што...***

«Папрасіў я сакратар-машыністку філалагічнага факультэта БДУ,— расказвае Анатоль Яфімавіч,— надрукаваць ліст да старшыні гарвыканкама з просьбай адвесці нашаму грамадска-культурнаму клубу зямельны ўчастак для пабудовы музея сучаснага беларускага мастацтва. Ліст друкавала Вольга Пятроўна Савіцкая на афіцыйным бланку «Спадчыны». Наш клубны сімвал — герб са знакам «Пагоні»... Машыністка завяршала працу, калі ў пакой увайшоў намеснік дэкана філфака Уладзімір Міхайлавіч Лазоўскі. Угледзеўшы машынапіс, ён выхапіў яго, парваў, скамячыў і шпурнуў пад ногі.

Ведаеце, можна не паважаць спадара Белага, можна па-рознаму адносіцца да клуба «Спадчына», можна быць дбайным кантралёрам рабочага часу сакратар-машыністкі, але ж трэба мець элементарнае пачуццё такту, чалавечай годнасці. Канешне ж, сваімі дзеяннямі Уладзімір Міхайлавіч зняважыў мяне. Больш таго, ён пакрыўдзіў жанчыну і абразіў нацыянальны і дзяржаўны сімвал беларусаў — «Пагоню».

Вядома, не для ўсіх актыўная грамадская дзейнасць Анатоля Белага зразумелая і выклікае сімпатыю. А ўявіце, колькі сіл і часу траціць кіраўнік «Спадчыны» на арганізацыю сустрэч з пісьменнікамі і вучонымі. А ці так ужо проста сабраць калекцыю сучаснага мастацтва, якая налічвае 500 адзінак і складаецца з карцін, скульптур, графічных твораў, узораў медальернага мастацтва Беларусі. Для параўнання заўважым: да нядаўняга часу ў Дзяржаўным мастацкім музеі Рэспублікі Беларусь падобная калекцыя налічвала ўсяго 35 медалёў!

Аднак не думайце, што за сваё справы супрацоўнік філфака Анатоль Белы заслужыў пашану ў сваіх калег. Калі я выказаў абурэнне дзеяннямі спадара Лазоўскага, то ад яго ў прысутнасці сведкі пачуў адкрытую пагрозу адправіць мяне ў псіхбальніцу. Маўляў, там будзе час падумаць пра павагу да начальства».

Здзіўляе выбар «выхаваўчых» сродкаў намесніка дэкана. Здавалася б, час «выхоўваць» людзей «псіхушкамі» ўжо мінуў. Іншы настаў цяпер час. За які, між іншым, не словамі, а справамі якраз і рупіўся Анатоль Белы. То мо замест нядобрай валтузні і дапамаглі б яму на тым жа філалагічным факультэце?..

Алесь **КАРЛЮКЕВІЧ.**

# Міжнародная канферэнцыя «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім»

З 5 па 8 красавіка ў канферэнц-зале Дома літаратара праходзіла Міжнародная канферэнцыя «Беларусь у Вялікім княстве Літоўскім».

Прыняць удзел у дыскусіях былі запрошаны прафесар Юльюш Бардах з Польскай акадэміі навук, намеснік дырэктара Інстытута гісторыі АН Беларусі доктар гістарычных навук Міхаіл Біч, загадчык кафедры Інстытута культуры (Менск) прафесар Анатоль Грыцкевіч, доктар Джым Дзінглі з Лонданскага універсітэта, гісторык Мікола Ермаловіч (Маладзечна), магістр Марэк Карп з Цэнтра ўсходніх даследаванняў (Варшава), прафесар Ежы Клачоўскі з Люблінскага каталіцкага універсітэта, загадчык аддзела нацыянальнага навукова-асветнага цэнтра імя Ф. Скарыны доктар філасофскіх навук Уладзімір Конан, прафесар Генрых Лялевіч з Польскай акадэміі навук, прафесар Анджэй Рахуба з Польскай акадэміі навук, прафесар Эльжбета Смулкова з Варшаўскага універсітэта, намеснік старшыні камісіі Вярхоўнага Савета Беларусі па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны кандыдат гістарычных навук Алег Трусаў, доктар мастацтвазнаўства, гісторык культуры, мецэнат (Лондан), доктар ганорыс каўза Варшаўскага універсітэта Анджэй Цеханавецкі, прафесар Сантэ Грачыёці з Інстытута славянскай філалогіі Рымскага універсітэта, народны дэпутат Беларусі кандыдат гістарычных навук Валянцін Голубеў і іншыя вядомыя навукоўцы.

Арганізавалі канферэнцыю Беларускі дзяржаўны універсітэт, Інстытут гісторыі АН Беларусі, Лонданскі універсітэт, Люблінскі каталіцкі універсітэт, Міжнародная асацыяцыя беларусістаў, Міністэрства адукацыі Беларусі, Нацыянальны навукова-асветніцкі цэнтр імя Ф. Скарыны і Польская акадэмія навук. Спонсарамі канферэнцыі сталі доктар Анджэй Цеханавецкі (Лондан), банк «Дукат», Беларуская прамыслова-камерцыйная асацыяцыя «БЕЛКОМАС» і вытворча-камерцыйнае прадпрыемства «БЕТЫКС» Лімітэд.

**У Брэсце 15 лютага г. г. адбылася канферэнцыя абласнога аддзялення Аб'яднанай Дэмакратычнай партыі Беларусі і сустрэча кіраўніцтва партыі з грамадскасцю. Абраны новы старшыня абласнога аддзялення. Ім стаў прадпрымальнік спадар Самойленка.**

(ВІС)

*З далёкіх вандровак*

# «ЖЫВЕ!» НА ЎВЕСЬ СВЕТ

Калі адпраўляешся ў далёкае падарожжа, непазбежна ўзнікае пытанне: ці хопіць твайго ведання замежнай мовы, каб паразумецца з жыхарамі чужой краіны? Так было са мной, калі ўпершыню, яшчэ школьнікам, ехаў у Польшчу. Колькі дзён кантактаў з іншамоўнымі сябрамі — і праблема знікала. Ды й цяжка беларусу не зразумець паляка, а паляку — беларуса.

Больш сур'ёзна гэтая праблема паўстала перада мной, калі пазалетась сабраўся ў Канаду. Я ведаў, што там нямала беларусаў (мяне і запрашалі амерыканскія выдаўцы нашай з А. Мельгуём кнігі «Праз рок-прызму»), але турбавала, ці змагу я знайсці іх у пераважна англа-франкамоўным асяроддзі. Праўда, на месцы аказалася, што гэтае «пераважнае асяроддзе» не такое сурова татальнае, як у нас. На вуліцы, у краме, у банку можна пачуць тую ж польскую мову, украінскую ды нават і беларускую. І калі ты звернешся да кагосьці пасвойму, ён не будзе з цябе смяяцца: «Во, дзярэўня, панаехала тут...» Найперш ён паспрабуе зразумець, якою мовою ты гаворыш, прыкіне, што ў вас можа быць агульнага для паразумення і... дапаможа табе. Так што нават з школьным багажом ведаў англійскай мовы я не меў у Канадзе болей праблем, чым у Польшчы.

І вось чарговая мая журналісцкая вандроўка — у Нямеччыну, куды запрасілі нас з жонкай калегі з беларускай рэдакцыі радыё «Свабода». Калісьці беларускае жыццё віравала ў гэтай краіне: тут было і шмат выдавецтваў, і тэатры, і рэдакцыі газет... І гэта была не толькі дзейнасць эмігрантаў, але і вынік міжурадавых пагадненняў 1920-х гадоў, калі вымалёўвалася перспектыва беларускай дзяржаўнасці. З цягам часу беларускі эміграцкі цэнтр патроху перамясціўся ў Амерыку.

І ўсё ж з паведамленняў таго ж радыё «Свабода», з публікацый у «Ніве», «Беларусе» я ведаў, што і тут, у Нямеччыне, яшчэ жыве Беларусь. Мне нават удалося наладзіць ліставанне з заснавальнікам Беларускага музея і Інстытута беларусаведы ў Ляймэне (акруга Гайдэльберг) спадаром Юрыем Попкам, якое цягнулася да смерці гэтага адданага патрыёта ў красавіку 1990 года. Немцы засталіся ўдзячнымі спадару Попку за тое, што ён праз сабраныя музейныя экспанаты і арганізаваныя ім канцэрты фальклорных калектываў ды выставы беларускіх мастакоў пазнаёміў іх з культурай і гісторыяй народа-суседа, з якім калісьці, у глыбокай старажытнасці, даводзілася лічыцца і іхнім продкам, магутнаму крыжацкаму ордэну.

Прыгадваю, калі яшчэ быў у Канадзе, бачыў на сцяне ў кватэры старшыні таварыства «Беларусь» Алеся Палескага цікавую карту Беларусі, выдадзеную ляймэнскім Інстытутам беларусаведы, якая паказвае не толькі палітычныя межы краіны, але і гістарычныя, этнаграфічныя, захоўвае першакрынічныя варыянты тапанімічных назваў.

Дарэчы, там жа, у таварыстве «Беларусь» я пазнаёміўся з маладым беларускім філолагам, выпускніцай Варшаўскага універсітэта Валянцінай Лаеўскай, якая потым гасцінна прымала нас з жонкай у Мюнхене.

Валя — шчыры, зычлівы і цікавы чалавек. Нарадзіўшыся на Беласточчыне ў праваслаўнай сям'і, яна трывала ўсвядоміла сябе беларускай. А ў Польшчы было ў гэтым сэнсе, бадай, як і ў нас: дзецьмі мы яшчэ многія заставаліся беларусамі, а падрасталі, атрымлівалі прафесію і... паўставалі перад дылемай: калі ты хочаш працаваць інжынерам, лётчыкам, дык забудзь, што ты беларус, а то цябе ўсе будуць пераконваць, што ты — белая варона. Калі ж хочаш застацца беларусам, дык дарога твая ў адным накірунку — быць настаўнікам, журналістам, філолагам або проста калгаснікам. Вось і стала Валя філолагам. Менавіта беларускім філолагам. Калі ў БССР такім спецыялістам яшчэ было дзе прыкласці рукі, то ў Польшчы — не надта. Тады і вырашыла паспытаць шчасця ў Амерыцы. Трэба сказаць, не адразу, але ўсё ж знайшлася там справа для беларускамоўнага прафесіянала. Праўда, беларуская рэдакцыя радыё «Свабода», куды яна ўладкавалася, накіравала дзяўчыну працаваць у Мюнхен.

Вось гэтак і выйшла: беларуска, якая нарадзілася ў Польшчы, з канадскім пашпартам працуе ў амерыканскай фірме ў Нямеччыне дзеля Беларусі. Пачынаецца і завяршаецца гэты ланцужок Беларуссю, а ахоплівае ўвесь свет. Увесь свет, дзе жыве Беларусь.

У вольныя часіны, па вечарах, мы з жонкаю любілі разглядаць Валіну бібліятэку. Вось выданні да юбілеяў Я. Купалы і Я. Коласа — даследчыя вышукі, крытычныя артыкулы ды падборкі твораў, якія не знойдзеш у аніводнай краме ў нас. Бо выпушчаны яны ў свет беларускімі выдавецтвамі Нью-Йорка, Таронта, Мюнхена, Рыма. Яны цікавыя ўжо тым, што эміграцкія аўтары разглядаюць творчасць песняроў беларускага слова без ідэалагічных шораў на свядомасці.

Натуральна, як у кожнага свядомага беларуса вольнага свету, належнае месца тут займаюць кнігі Наталлі Арсеньевай, Кастуся Акулы. Нават апошняя кніга празаіка К. Акулы з Канады — раман «За волю» — паспела ўжо трапіць да Валі. І ў нашай прэсе цяпер гэтыя імёны не такія ўжо рэдкія, і гаворыць пра іх не гэтак насцярожана-варожа, як калісьці.

Цікава было пагартаць і мюнхенскія беларускія выданні. Дзесь у 60-х гадах тут працавала выдавецтва «Бацькаўшчына», выданні якога паспелі стаць бібліяграфічнай рэдкасцю.

Валя, відаць, убачыла, з якім захапленнем я разглядаю мюнхенскае выданне кнігі Максіма Багдановіча «Вянок», і праз хвіліну мне яго падаравала. Не тое, каб у маёй бібліятэцы не было менскага (1985 года) факсімільнага выдання «Вянка», але выдавецтва «Бацькаўшчына» ўключыла ў кнігу шмат невядомых нашай публіцы вершаў класіка, а да таго ж — грунтоўныя артыкулы С. Станкевіча і А. Адамовіча.

Натуральна, і нам было чым парадаваць Валянціну: апошнія зборнікі маладой літаратуры («Тутэйшыя» і «Перад маімі вачыма»), якія не гэтак лёгка дастаць у Мюнхене, але якія з цікавасцю чытаюць беларусы на Захадзе, кнігі нашых класікаў, фальклору. А з якім узаемным захапленнем мы абмяняліся кнігамі «Матчын дар» Алеся Гаруна. Я атрымаў мюнхенскае выданне (1962, «Бацькаўшчына», з дадаткам шэрагу іншых твораў), а Валя — факсімільную копію з першага выдання кнігі (Менск, 1918), якую да 100-годдзя паэта выпусціла выдавецтва «Мастацкая літаратура».

Зрэшты, беларускіх кніг з Менску многа ў беларусаў на Захадзе. Некаторыя з іх даволі высока каціруюцца. І ў Валянціны Лаеўскай і ў многіх іншых я бачыў ілюстраваныя альбомы «Беларускае народнае адзенне», «Беларускі жывапіс», «Беларуская кераміка».

Гаспадыня бібліятэкі цікава расказвала, як за 30 долараў ёй удалося раздабыць у Беластоку першыя чатыры тамы твораў У. Караткевіча. Натуральна, вярнуўшыся дадому, мы свабодна (пакуль яшчэ!) купілі астатнія тамы і даслалі ў Мюнхен.

Бадай, прэстыж беларускасці ў нас расце тым шпарчэй, чым больш мы даведваемся, што ў вольным свеце гэты прэстыж і быў трывалы. У Нью-Йорку людзі бавяць вольны час за праглядам відэакасет і слуханнем кружэлак Данчыка, у Мюнхене з захапленнем чытаюць Гаруна і Багдановіча, а ў Беластоку на кірмашы «заганяюць» за долары кнігі Караткевіча... Дык няўжо ж нам, беларусам, на радзіме цягаць макулатуру, каб прыдбаць Лажэчнікавых ды пэцкаць магнітастужку недасканалымі кліпамі Дабрыніных, Распуцінцых ды «Ласкавага мая»? Досыць.

Беларусь жыве, і хай будзе сорамна тым беларусам, якія ўсё яшчэ жывуць без яе.

Вітаўт МАРТЫНЕНКА.

## У Сакратарыяце ТБМ імя Францішка Скарыны

1 красавіка прайшло чарговае пасяджэнне Сакратарыята Рэспубліканскай Рады Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Асноўным пытаннем павесткі дня стала падрыхтоўка канферэнцыі ТБМ «Беларуская мова і нацыянальна-дзяржаўны суверэнітэт», што мае адбыцца 15 мая. Удзельнікі Сакратарыята вызначылі напрамак канферэнцыі, распрацавалі яе змест, азначылі кола ўдзельнікаў.

Пры Рэспубліканскай Радзе ТБМ у мінулым годзе працавалі курсы па вывучэнні беларускай мовы, на якіх выкладалі вопытныя настаўнікі. Арганізацыя такіх курсаў плануецца і на гэты год. Таму наступным пытаннем пасяджэння стала абмеркаванне методыкі іх работы і зацвярджэнне ўзору пасведчання, што будзе выдавацца слухачам курсаў пасля іх заканчэння.

Абмяркоўваліся прапановы па паляпшэнні дзейнасці Рэспубліканскай Рады ТБМ.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

*Ліст з Лондана*

# Паштоўкі — пад фірмаю ТБМ!

**Паважаны спадар Старшыня!**

**Ахвярую на рахунак ТБМ 30 (трыццаць) ангельскіх фунтаў. Прасіў бы ласкава фундаваць гэтую сціплую складку на канкрэтную справу, хаця б на беларускую паштоўку. Іх скрозь няма, нават у суверэннай незалежнай Рэспублцы Беларусь, хіба што прыбыло гаварыльні на ўсіх узроўнях, што такія паштоўкі патрэбныя не толькі пад Новы год.**

**Наогул, чаму б Радзе ТБМ не агаласіць збор сродкаў пад гэтую шляхетную задуму — серыю каляровых паштовак пад фірмаю ТБМ з мажлівым дэвізам: «РУПЛІЎЦЫ СЛОВА БЕЛАРУСКАГА». І меціме партрэты знакамітых мужоў Беларусі з іх выказваннямі пра родную мову, Бацькаўшчыну:**

***Францішак СКАРЫНА:* «Иже мя милостивы Бог с того языка на свет пустил».**

***Леў САПЕГА:* «А ежели которому народу встыд пра своих не умети...»**

***Кастусь КАЛІНОЎСКІ:* «Ліст з-пад шыбеніцы».**

***Вінцук ДУНІН-МАРЦІНКЕВІЧ:* на выбар.**

***Янка КУПАЛА:* «Акоў паломаных жандар» (ці «Беларушчына»).**

***Якуб КОЛАС:* з перадсмяротнага ліста ў ЦК КПБ ці штосьць падобнае.**

***Максім БАГДАНОВІЧ:* «Пагоня».**

***Максім ГАРЭЦКІ:* на выбар.**

***Алесь ГАРУН:* «Ты, мой брат, каго зваць Беларусам...»**

***Уладзімір ДУБОЎКА:* «О, Беларусь, мая шыпшына».**

***Янка БРЫЛЬ:* на выбар.**

***Пімен ПАНЧАНКА:* на выбар.**

***Максім ТАНК:* на выбар.**

***Наталля АРСЕНЬЕВА:* на выбар.**

***Ніл ГІЛЕВІЧ:* «А дзе ж тая крынічанька» (або «Дзярзайце, юныя паэты»).**

***БЕЛАРУСКІ ГІМН:* «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»**

**Мастакі (Басалыга, Купава) прыдадуць паштоўкам належны беларускі лад, друкарня «Беларусь» (некалі ж павінна спраўдзіць сваё найменне) не пашкадуе лепшай паперы і шрыфтоў ды растыражуе тысяч на сотню для пачатку... Як жа адразу пахарашэе ў кіёсках, кнігарнях, бібліятэках, школах, садках дзіцячых, дамах адпачынку Беларусі... Народ пабачыць, што яго скалечанае, прыніжанае СЛОВА ачуньвае, устае з каленяў, і сам пачне дзейнічаць — беларусіцца адважней, паслядоўней. І атопкі імперскія, чыё глумленне над беларушчынай не спыняецца (гл. «Справочник для поступления в вузы БССР», 1991 — прыкладаю «ўзор»), глядзіш, прысмірэлі б.**

**Дак дзейнічайце ж — ПА-ДЗЯРЖАЎНАМУ, ПА-НАРОДНАМУ, ПА-БЕЛАРУСКУ!**

**Дзядзька ЛЯМЕЦ, сябра ТБМ.**




№ 1 (11), 1992

Выйшаў у свет першы ў гэтым годзе нумар часопіса «Полацак». Ён адкрываецца ўступным словам рэдактара Святланы Белай «Вяртанне крыжа», дзе яна нагадвае чытачам пра 1000-годдзе стварэння Полацкай епархіі, якое адзначаецца сёлета. Гэтую ж тэму працягвае Юрый Штыхаў у сваім нарысе «Аб стварэнні Полацкай епархіі».

Друкуецца працяг артыкула Сяргея Тарасава «Адкуль прыйшло хрысціянства ў Беларусь?».

Пад рубрыкай «Наша гісторыя» публікуецца працяг навуковай працы Міхася Белямука «Эмблема на шчыце герба «Пагоня». Тут жа чытача, безумоўна, зацікавіць публікацыя Паўла Урбана «Да пытання этнічнай прыналежнасці старажытных ліцвіноў».

На неабходнасць духоўнага збліжэння беларусаў звяртае ўвагу Анатоль Сабалеўскі ў сваім нарысе «Час духоўнага яднання».

У раздзеле «Далёкае і блізкае» Кастусь Мерляк прапануе чытачам артыкул «Беларусы ў Аргенціне».

Пад рубрыкай «Памяць зямлі» друкуюцца ўспаміны Лявона Шымана пад назвай «Мая няволя» і ўспаміны Яўгена Ціхановіча.

У нумары працягваецца публікацыя невядомых лістоў і вершаў Уладзіміра Караткевіча.

Напрыканцы часопіса падаецца рубрыка «З жыцця эміграцыі», якая змяшчае інфармацыю пра жыццё і дзейнасць беларусаў Паўночнай Амерыкі, друкуе паведамленні і абвесткі.

Л. БАРШЧЭЎСКАЯ.

# Вучымся!

Пастаянна шукаць і выкарыстоўваць новыя формы і метады правядзення ўрокаў — такую задачу паставіў перад сабой калектыў Аляхновіцкай сярэдняй школы Маладзечанскага раёна. Школа стала адным з цэнтраў перападрыхтоўкі настаўніцкіх кадраў. Тут фарміруюцца класы з паглыбленым вывучэннем пэўных прадметаў. Часта практыкуюцца інтэграваныя ўрокі, напрыклад біялогія — хімія, фізіка — матэматыка, геаграфія — гісторыя. Гэта робіць іх інфармацыйна больш насычанымі, цікавымі, да таго ж эканоміць вучэбны час. У выніку ў вучняў з'яўляецца больш часу для пазакласнай работы ў гуртках і секцыях.



**На здымку:** цікава праводзіць урокі беларускай мовы настаўніца з 30-гадовым стажам Таццяна Аляксандраўна Шаблыка.

**Фота Аркадзія НІКАЛАЕВА. (БелТА).**

## Аўтамабіль

Назва «аўтамабіль» ідзе ад грэч. «аўтос» — сам і лац. «мобіліс» — рухомы. У 1769 годзе была названа аўтамабілем самаходная грузавая машына з паравым рухавіком, якую вынайшаў французскі механік Куньо. У 1882 годзе рускія інжынеры Пуцілаў і Хлебаў стварылі машыну з бензінавым рухавіком унутранага згарання і назвалі яе таксама аўтамабілем. Аднак слова «аўтамабіль» устанавілася ў свеце ў 1894 годзе, калі на шашы Парыж — Руан адбыўся першы міжнародны аўтапрабег. Рэкордная хуткасць тады раўнялася ўсяго толькі 20 км у гадзіну. У Беларусі выпуск аўтамабіляў быў арганізаваны ў 1947 годзе на Менскім аўтазаводзе.

*Дапытлівым*

# АКАННЕ

*(Заканчэнне. Пачатак у №№ 9—11, 13).*

**Вядома, «першая» асаблівасць нашай мовы была першай праблемай, якую вымушаны былі вырашыць лінгвісты, што браліся распрацоўваць правапіс. На жаль, мы нічога пакуль не можам сказаць, як зладзілі «гукі мясцовых гаворак» з «ладам алфавіту», які «наш прашчур... у грэкаў пазычыў», аўтары першых, верагодна, граматык беларускай мовы Павел Шпілеўскі (1846) і К. Нядзведскі (1854), пра якога БелСЭ толькі згадвае. Іх рукапісы, як піша Л. М. Шакун у «Нарысах гісторыі беларускай літаратурнай мовы» (Мн., 1960. С. 159), «так і засталіся ляжаць рукапісамі ў архівах».**

**Выдаўцы беларускіх кніг і газет XIX і пачатку XX стагоддзяў выкарыстоўвалі «рускую» альбо «польскую» графіку, аднак імкнуліся перадаваць на пісьме аканне, яканне і некаторыя іншыя «спецыфічныя з'явы беларускай фанетыкі». І гэта ім пераважна ўдавалася. Паступова ў практыцы беларускага друку замацаваліся «фанетычныя прынцыпы перадачы на пісьме галосных». Першая сусветная вайна падзяліла тэрыторыю Беларусі на дзве часткі. Тым большай ставалася патрэба нармалізацыі беларускага правапісу, прыняцця адзіных правапісных і граматычных нормаў. За гэтую пільную працу ўзяліся Антон Луцкевіч, Язэп Лёсік, Рудольф Абіхт, Янка Станкевіч і Браніслаў Тарашкевіч. Прапанаваныя імі падручнікі разглядала камісія Беларускага навуковага таварыства ў Вільні. У друку распачаліся спрэчкі, каб узгадніць разыходжанні.**

**Найболей паспяхова справіўся з нялёгкімі праблемамі нармалізацыі правапісу Браніслаў Тарашкевіч. У 1918 годзе ў Вільні была надрукавана яго «Беларуская граматыка для школ» — «...вельмі ўдалы вопыт вылучэння асноўных заканамернасцей беларускай мовы. Прапанаваная аўтарам фанетыка-граматычная сістэма беларускай мовы замацавалася як сістэма яе літаратурных норм» (І. І. Крамко, А. К. Юрэвіч, А. І. Яновіч. Гісторыя беларускай літаратурнай мовы. Т. 2. Мн., 1968. С. 162).**

***ДЛЯ ДЗЯЦЕЙ І ДАРОСЛЫХ***

Алесь КІКЛЕВІЧ

# Як пастух пана абхітрыў

***(З народнага)***

ыў-быў пан і, здаецца, усё меў: і маёнтак, і грошы, і ўрадлівай зямлі ды люду паднявольнага шмат. І толькі аднаго не хапала яму — добрай памяці. Не трымаліся як на ліха ў яго галаве словы, разбягаліся яны, як авечкі без пастуха, губляліся ды блыталіся, і да ладу давесці іх нельга было. Захоча, напрыклад, пан апрануцца ў свой аксамітны халат і кліча лёкая:

— Гэй, падай мне... мой... ну, гэты... ну, тое, што на плечы...

Той падае пану каромысел.

— Ды не гэта, а... як яго... ну, такое... адзенне... ха... хы...

Лёкай нясе пану хустку.

— Навошта мне хустка? Ці я табе баба? — крычыць пан.— Мне трэба гэта... бліскучае, што я з-за мяжы прывёз...

Лёкай нясе пану сярэбраную табакерку.

— Ну і дурань! — злуецца пан.— Ці ж можна апранаць табакерку?

— Не. Але ж яна блішчыць...

— Каб табе ў вачах блішчэла! — кляне пан ды ідзе апранацца сам.

І стаў пан заўважаць, што нікому нічога ён ужо загадаць не можа, і даводзіцца яму самому апранацца, боты чысціць. Да таго дайшло, што аднойчы сам каня запрагаў. Пачаў быў ён конюху загадваць:

— Гэй, Кузьма, давай... гэта... каня...

— Што — каня? — пытаецца Кузьма.

— Ну, рабі тое... каб... гэта... каб я быў не тут, а быў там,— паказаў пан рукой у бок суседняга маёнтка.

Кузьма падхапіў пана і панёс яго.

— Стой, дурань! — крычыць пан.— Што ты робіш, доўбня!




— Раблю, каб ты быў не тут, а там.

— Ты не са мной рабі, а з гэтым... як яго... што з хвастом,— паказаў пан на каня.

Конюх кінуў пана, сеў на каня ды й паехаў па дарозе.

— Стой, дурань! — зноў крычыць пан.— Вярніся!

Вярнуўся конюх.

Пан яму гаворыць:

— Ты зрабі так, каб... гэта... конь бег, а я — сядзеў...

Кузьма пасадзіў пана ў канюшыну ды зноў сеў на каня.

— Стой! — крычыць пан.— Што ты робіш, дурань?!

— Ты ж прасіў, каб конь бег, а ты сядзеў...

— Баламут! — крычыць пан.— Каб я не тут сядзеў, а... у гэтым... ну, як яго... у тым, што за канём коціцца.

Узяў конюх пустую бочку, пасадзіў у яе пана ды пакаціў.

Ледзь пана ўратавалі, а як трохі ачуняў, абурыўся ён, насварыўся на конюха, а вымушана-такі быў зладзіць каня і сам запрэгчы брычку.

Так надакучыла яму дрэнная памяць, што пачаў ён разважаць: «Калі так і далей пойдзе, то страчу я ўсю сваю ўладу над сялянамі, а яны мяне замест каня запрагаць будуць». Жудасна стала пану ад гэтай думкі, і стаў ён шукаць ратунку. Думаў пан дзень, думаў ноч, думаў і другую, і трэцюю, але ўрэшце прыдумаў.

Кліча пан да сябе свайго пастуха Мікіту ды кажа яму:

— Хопіць табе круціць хвасты... гэтым... што з рагамі... Новую табе даю работу: будзеш пры словах маіх пастухом, словы мае... пасвіць будзеш, даглядаць, каб аніякай шкоды ім... гэтае самае... не было...

А Мікіта быў кемлівы, адразу сваё ўдумаў і адказвае пану:

— Чуў я пра тваю бяду, пане. Што ж, згодны я быць пастухом словаў тваіх. Але ты павінен паехаць у горад і купіць там шмат паперы.

— А навошта гэта?

— Пабачыш.

Згадзіўся пан, паехаў у горад і прывёз адтуль гару паперы.

— Цяпер бяры аловак,— кажа пастух,— і напішы назвы ўсіх рэчаў, якія вакол цябе знаходзяцца.

Стаў пан пісаць назвы ды прыклейваць іх да рэчаў: «стол», «крэсла», «акно», «вядзерца», «халат» і інш. Потым пайшоў на двор і пазначыў там дрэвы, прылады, жывёл і птушак. І нават кожнаму з сялян даў паперку з адпаведным імем і патрабаваў заўсёды насіць яе з сабой.

Неўзабаве адчуў пан, што зноў стаў ён панам, бо стаў ён загадваць ды прымушаць. Калі якое слова і забудзе, дык заўсёды яно перад вачыма — на паперцы да рэчы прыклеена.

Засумаваў проста люд ды пачаў пра Мікіту нядобрае гаварыць. А той спраўна сваю пастухову службу нясе, так што пан ім не нацешыцца. Вось аднойчы кажа Мікіта пану:

— Здаецца, пане, усе рэчы і ўсе з'явы вакол мы абазначылі. Але і яшчэ папера засталася. А на ёй — словы.

— Дык што? — пытаецца пан.

— А тое, што для іх не знайшлося рэчаў. А слова без рэчы, як дрэва без каранёў,— сохне, гіне. Чаго ж я буду варты, калі мой статак зводзіцца пачне? Вось, напрыклад, слова «цырк». А дзе той цырк? Каб слова не прапала, трэба, каб сапраўды быў цырк.

Запрасіў пан з горада артыстаў, пабудаваў для іх арэну і прыбіў шыльду: «Цырк». Яшчэ весялей стала жыць пану — было добра, а тут яшчэ і цырк. Яшчэ больш хваліць ён Мікіту. А той зноў звяртаецца да пана:

— З цыркам ты, пане, даў сабе рады, а як быць са словамі «мора», «вулкан», «ліяна», «малпа», «кенгуру», «воблака», «сонца» і мностам іншых, якія ты ведаеш? І іх таксама трэба было б да адпаведных рэчаў прыклеіць.

Згадзіўся пан з Мікітам, бо вельмі шанаваў пастуха і даверыў яму.

Сабраўся пан у далёкую дарогу ды паехаў. Так з таго часу і блукае ён па зямлі, і няма канца яго падарожжу. І нават калі ён аблеіць паперкамі ўсю зямлю, то наўрад ці дабярэцца да аблокаў, а тым больш да сонца ці да зорак...

А паднявольныя сяляне падзялілі панскую зямлю. Сталі жартам успамінаць пана-недарэку ды дзякаваць кемліваму Мікіту, што іх з няволі вызваліў.

Кажуць, што з таго часу ўзнікла слова «падмікіціць», гэта значыць, пасмяяцца з некага, абхітрыць, абдурыць яго, інакш кажучы, зрабіць так, як Мікіта.

*Алег БЕМБЕЛЬ*

# *З «падпольнай» кнігі*

*(Працяг. Пачатак у №№ 5—13).*

Гістарычны працэс няўхільна развіваецца ў напрамку стварэння ўсё больш вялікіх сацыяльна-эканамічных і палітычных аб'яднанняў, а ў рэшце рэшт — у напрамку глабальнай гаспадарчай, навуковай і палітычнай інтэграцыі чалавецтва. Спыніць гэты рух сацыяльных гігантаў наўрад ці хто здолее, бо гэта не мае рацыі — ні экалагічнай, ні эканамічнай, ні навуковай. Пажадана, каб дзеячы духоўнай культуры гэта разумелі і не раздражнялі палітыкаў-прафесіяналаў сваімі дылетанцкімі павучаннямі. На жаль, узровень палітычнай культуры сярод нашай інтэлігенцыі жахліва нізкі.

З другога боку, надышоў час і палітыкам пазбавіцца дзіцячай хваробы, якая завецца вульгарнай сацыялогіяй. Асноўныя сімптомы захворвання на вульгарную сацыялогію наступныя: 1. Экстрапаляцыя заканамернасцей сацыяльна-эканамічнага і палітычнага «макрасвету» на «мікрасвет» нацыянальнай духоўнай культуры. 2. Прымітыўны аўтарытарызм — замест творчага выкарыстання эўрыстычнай сілы вялікіх людзей. 3. Вырашэнне навуковых (шырэй — духоўных) спрэчак «большасцю галасоў».

У мікрасвеце духоўнай культуры працэсы нацыянальнай дыферэнцыяцыі паглыбляюцца. Змагацца з гэтым дарэмна — як і з працэсам інтэграцыі народаў у галіне матэрыяльнай культуры. І чым глыбей прафесійныя палітыкі зразумеюць гэта, тым больш сапраўдных сяброў сярод творчай інтэлігенцыі яны набудуць, тым эфектыўней (у спрыяльным псіхалагічна-духоўным клімаце) будзе ажыццяўляцца сацыяльна-эканамічная і палітычная інтэграцыя народаў, іх маральны і эстэтычны прагрэс.

«Кесару — кесарава, Богу — Богава». Трэба, каб гэты славуты старадаўні сімвал часцей успаміналі прадстаўнікі дзвюх дружалюбных прафесій: палітыкі і дзеячы духоўнай культуры. Тады іхнія творчыя ўзаемадзеянні будуць больш плённымі — для кожнага народа і чалавецтва.

**(50 гадоў, беларус, літаратар)**

...Працэс «памірання» вёскі ні беларусы, ні немцы, ні англічане, ні рускія спыніць не могуць. Ён ахапіў і нас — гэты сусветны працэс. І з цягам часу мы будзем адчуваць яго ўсё мацней. Сусветная тэндэнцыя якая?.. 10 працэнтаў насельніцтва (у індустрыяльных дзяржавах) займаецца сельскай гаспадаркай. У нас пакуль што палова. Але праз гадоў 20 і ў нас так будзе. Мы таксама ідзём па шляху індустрыялізацыі. Вёска знікае...

Назвы вёсак трэба пакінуць — для гісторыі. Яны шмат што гавораць пра кожны народ...

З цягам часу будуць і ў нас (як у Канадзе, ЗША) велізарныя гаспадаркі — па некалькі тысяч гектараў, якія даглядаюць некалькі чалавек. Што ім — жыць на хутары?.. Да хутароў ужо ніхто не вернецца. Яны могуць жыць у гарадах. Селі на свае машыны і паехалі на працу...

...А чаму ўвогуле патрабаваць, каб культуру і мову захоўвалі толькі сяляне?.. [Селянін (крестьянин) — гэта катэгорыя не індустрыяльнай эпохі]. Трэба, каб працэс развіваўся і ў гарадах. Трэба, каб адукаваныя людзі — інтэлігенцыя, рабочыя — захоўвалі нацыянальныя традыцыі, каб не толькі вёска, але і горад бярог карані культуры і мовы, якія па ўсёй зямлі нашай...

**(Каля 40 гадоў, беларус, настаўнік з Магілёўшчыны)**

Дык каб жа ён развіваўся ў гарадах, гэты працэс — было б цудоўна!.. Але ж ён не развіваецца, вось у чым справа... Ці мала што я ведаю, яе трэба рабіць, але нічога не раблю?..

...Праблема «вёска—горад» у нашай культуры... Той, хто бачыць у ёй толькі вонкавыя сучасныя прыкметы, той анічога не бачыць. Ён не разумее сутнасці справы...

Беларускія гарады былі ў XVI—XVII стагоддзях. А пазней гарады былі ўжо не беларускія, беларусаў там была абсалютная меншасць. Вазьмі 1930 год. Нацыянальная структура БССР: сяляне — 86,11 працэнтаў ад агульнай колькасці насельніцтва. А ў гарадах беларусаў толькі 39 працэнтаў (яўрэяў — 40.14 працэнтаў, рускіх — 15,6, палякаў — 2,32 і г.д.). А калі ўзяць Мінск на пачатку нашага стагоддзя, то беларусаў там было толькі каля 10 працэнтаў. Іншанацыянальныя пласты валодалі ўсёй гарадской культурай. І калі вёска пачала міграваць у горад, гэтыя людзі імкнуліся дапасоўвацца да гарадской культуры. Так што асновай беларускай культуры і мовы была вёска. А гарады, калі і былі цэнтрамі культуры, дык культуры на тэрыторыі Беларусі, а не беларускай культуры.

Калі літоўцы ў 20—30-х гадах жылі самастойнай дзяржавай, сталіцай яны зрабілі Каўнас, засялілі яго літоўцамі і зрабілі яго цэнтрам літоўскай культуры. Усе, хто не змог дапасавацца,— выехалі...

І далей. Калі прыняць логіку сучаснай вонкавасці («кажимости»), то, значыць, людзі з цягам часу зусім аддзеляцца ад зямлі, як той Антэй?.. Усё ж правы быў стары Талстой, і няма чаго рабіць з яго дурня: «Мастак быў вялікі, а мысліцель прымітыўны». Гэта ж глупства!.. Ці ж мастацтва магчыма без глыбокага мыслення?.. Не з горада ў вёску ездзяць працаваць — а наадварот: з вёскі, селі, як кажа той літаратар, на свае машыны і паехалі ў горад, папрацавалі — і назад...

*(Працяг будзе).*

*Алесь РАЗАНАЎ*

# ВЕРШАКАЗЫ

*Кожнае слова мае свой твар, свой характар, і вершаказы — аўтабіяграфіі слоў, іхнія аўтапартрэты. У вершаказах словы апавядаюць пра сябе і пра тую рэчаіснасць, з якою яны зрадніліся і «згучыліся».*

*Некалі я занатаваў: «Кожны народ мае хоць бы адзін геніяльны твор, і гэты твор — мова».*

*У мове жыве непраяўлены, безназоўны народны эпас. Вершаказы — — мазаіка эпасу.*

## Наваколле

Наваколле вясковае: у ім відаць вокны хатаў, колле платоў і сцежкі, вытаптаныя паводле немудрагелістага лякала людской хады. Яно адначасова разамкнёнае, бы каляіны, і, быццам кола, замкнёнае, і акаляецца відавочнасцю — здольнасцю вока сягаць далёка.

Наваколле — супольная аўра, супольнае жыццяполе істотаў, рэчаў і з'яў, і пакуль яны супольнічаюць між сабою, яно не адступаецца ад іх; калі ж яны пачынаюць пасягаць на выключнасць і пакланяцца самім сабе, тады наваколле расколваецца на калейдаскопы кавалкаў і аскалёпкаў.

По наваколлі паволі калываецца калымага.

У наваколле ўкалоньваецца кальварыя і Кальвін.

У наваколлі выспяваюць калівы «Калевалы».

## Гутарка

Гутарка — гаспадарка, у якой усё ў зборы, усё ў гурце, усё зацікаўлена адно ў адным і ўторыць адно аднаму.

Яна грунтоўная, нетаропкая і доўжыцца звычайна не хвіліну і не гадзіну, а, як нейкі торг, як рада — да заўтра, да аўторка, бы таркай, пераціраючы ўсе меркаванні, здагадкі, здарэнні, чуткі.

Лепш за ўсё гутарка пачуваецца не ў горадзе і не ў мястэчку, дзе чалавека не здзівіш ні чалавекам, ні навінамі, а на хутары, дзе чалавек — падарунак чалавеку і дзе раскатурхваюцца нават самыя старыя ўспаміны.

У гутаркі свой лад, свой парадак, яна не тарабарыць дарма, як тара, а па-сакратаўску сааўтарнічае, узаемнічае, «сутарыць», частуючыся мяккім гумарам і моцнай махоркаю.

## Птах

Раптоўны, нібы гром стрэлу (п-тах!), і поцемны, нібы згустак патухлага полымя, птах — выклік і нерухомай форме, і бясформнай рухомасці.

Ён прыляцеў са Старажытнага Егіпта, ад бога мастацтваў Пта — як яго пасланец, як яго патаемнае слова, як іпастась яго духу.

Птах — адмысловы хатха-ёг: яго цела паслухмянае любому подыху натхнення, ён дасканала валодае тэхнікай левітацыі, і зямное прыцягненне толькі дапамагае яму развіць закладзеныя ў ім «птахчымасці».

Птаха хапае і на зямлю, і на неба, і хоць хата для птаха — зямля, на ёй ён спутаны, на ёй ён «пехацінец», які мусіць думаць пра тое, каб напакаваць свой «хатуль» і каб займець свой катух.

Але выпхнуты моцай палёту ў неба, ён набывае другое — ці, можа, першае — дыханне і, вольны ад хапатлівага клопату і ад высотнай пыхі, як роўны вітаецца з маладзіком і з ветахам, і зямля — вачамі сваіх шматлікіх «хацінцаў» — бачыць у ім і плаху, узнятую высока, і высока ўзняты свой дах.

## Рэчы

Рэчы дарэчы, калі яны становяцца памочнікамі чалавеку, калі яны яму зручныя і спадручныя, і недарэчы, калі яны пачынаюць панаваць над чалавекам і супярэчыць яму.

Рэчы насяляюць чалавечы свет, яго рэчаіснасць, і жыццё чалавека цячэ ў рэчышчы, абумоўленым рэчамі, не могучы выхіліцца з-пад іхняга ўплыву і не могучы заставацца там, дзе застаюцца яны.

Страчваючы рэчы, чалавек сірацее, нібыта страчваюцца яго стрыечныя двайнікі, і набывае новыя магчымасці ў новай сустрэчы з імі.

Чалавек трымаецца за рэчы, як за парэнчы, і яшчэ не вядома, хто болей каго не хоча адпусціць ад сябе — ці ён іх, ці яны яго.

У рэчах назапашваецца рэха чалавечых думак, зарокаў і адрачэнняў.

З рэчаў, як выява іхняй спрадвечнай і таямнічай моцы, узнікае rex — цар.

## Воблака

Быццам вандроўная выспа, воблака блукае па паднябессі і па-над зямлёю, не могучы апусціцца на самую зямлю і ўзняцца ў самое неба — яно трывала «заблакавана» абодвума бакамі.

Няма ніводнай мясціны, ніводнай вобласці, дзе б воблака не пабывала і якую б не кранулі яго «воплакі», але найболей прываблівае воблака абалонамі рэк: і Об, і Обаль, і Абалянка сунімаюць воблака, суцяшаюць, наталяюць і «аблакаюць» у новае аблачэнне — трохі белае, трохі блакітнае, трохі бухматае і трохі воблае (кругляве).

Воблака не мае нязменлівага, «пашпартнага», вобліку, і можа таму, паклаўшыся на зямлю, людзі ўглядаюцца ў воблака не толькі вачамі, але самою сваёю душою, бо, як і воблака, душа — блукальніца.

Нехта, бывае, кажа, што воблака добрае, нехта, наадварот,— што благое, але само воблака пастаянна аддаляецца ад нітак гэтых меркаванняў; яно — нібы нябесны клабук, прызначаны, каб увянчаць увесь «клубок» — нашу зматаную з супярэчнасцей планету.

## Сук

Сук сухі: сярод разгалістых гнуткіх галін ён вытыркаецца, нібы крук: яго не поіць сокам сваім сакавік і не ўпрыгожвае сваімі лістамі і квеценню май.

Над суком не маюць ніякай улады жыццёвыя спакусы, і хоць ён ссуканы з валокнаў непагадзі і пагоды, ён вышэй за непагадзь і пагоду, за радасць і смутак, якія ім уласцівы; ён — указальнік, які паказвае дрэву — і ўсім істотам — самы вузкі і самы асноўны кірунак: ад сябе.

З сука дзівуецца куст.  
На сук сядае крумкач.  
У сук устукоўваецца дзяцел.  
І сам сук — стык абмежаванай формы з неабсяжным зместам.

*(Заканчэнне. Пачатак у № 13).*

Далей дакладчык адзначыў, што работа апарата ЦК КПБ і Саўміна, мясцовых партыйных і савецкіх органаў, нават органаў народнай асветы вядзецца на рускай мове. Не гучыць родная мова ў большасці навучальных устаноў. У Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі і Гродзенскім сельскагаспадарчым інстытуце не чытаецца на роднай мове ніводнай дысцыпліны. У гарадах рэзка скарацілася колькасць беларускамоўных школ. У Мінску іх усяго 9 з 48.

Антон Пракапенка ўсё прымяраў да свайго раёна. І пленумы райкама, і сесіі райсавета праходзілі на рускай мове. Праўду кажучы, была жахлівая трасянка — слова рускае, слова беларускае, але ўсе лічылі, што гэта і ёсць вялікая руская мова. Ды і Зімянін гаварыў па-газетнаму. Гэта былі не тыя словы, што гучаць у Лабанаўцы, Крычаве ці Чэрыкаве, у Хатынічах ці ў Саковічах. Дык жа ў дакладаў — свой асаблівы стыль. І па-руску ж даклады робяць не на той мове, якая жыве і пульсуе ў Разані ці ў Чэлябінску.

— Ты ведаеш, Антоне,— па-беларуску звярнуўся да яго Лугаўцоў,— слухаю даклад і думаю. Да чаго ж мы дажыліся! Роднае слова... Ну, на ім жа гаварылі дзяды і прадзеды... А мы выкінулі на сметнік... Ты ж помніш, у вайну на беларускай мове друкаваліся лістоўкі. Выходзілі падпольныя газеты. А як скончылася вайна, тыя ж газеты пачалі выходзіць на рускай мове. Як трэба было падняць народ супраць фашыстаў, дык узяліся абуджаць патрыятызм. Любоў да роднай зямлі, роднай мовы. А пасля вайны? У Магілёве практычна не пачуеш роднай мовы. Хіба што на Быхаўскім рынку. Ды ў рэдакцыі абласной газеты. Шыльды ўсе па-рускy. Адно кінатэатр «Чырвоная зорка» з даваенных часоў захаваўся са сваёй назвай. Да вайны на беларускай мове ў Магілёўскім гаркаме партыі праводзіліся пленумы. А ў абкаме — па-руску. Макараў не ведаў мовы, але гаркамаўцаў не прыціскаў. Добра, што цяпер спахапіліся...

Пракапенка пачуў у голасе Лугаўцова прыхаваную радасць і прыемна здзівіўся, што ў яго партыйнага паплечніка і начальніка абудзіўся дух патрыёта і што ён загаварыў на роднай мове, і ў той жа час падумалася: «Дзе ж ты раней быў? Як пачуў з трыбуны, зарыентаваўся...»

Тым часам даклад працягваўся. Зімянін крытыкаваў за недахопы ў сельскай гаспадарцы: дзевяць гадоў прамінула, як прагналі немцаў, а людзі яшчэ жывуць у зямлянках. І выходзіла, што вінаваты ва ўсім Патолічаў, за што ён вызваляецца ад сваіх абавязкаў.

— Бачыш, як павярнуў. Выходзіць, Патолічаў за тры гады ўсё развaліў. А сам жа Зімянін быў другім сакратаром. Я не чуў, каб ён калі-небудзь раней выказаўся супраць. Ці прапанаваў нешта іншае...

— Васіль Пятровіч, не крытыкуй свайго будучага начальніка,— пачуўся голас ззаду.— І сцены вушы маюць,— грузны чырванатвары мужчына нахіліў да Лугаўцова круглую лысую галаву. І сцішыўшы голас, дадаў: — А зрэшты, праўду кажаш.

— Ну, цяпер ён храбры. Як у Маскве знялі,— узрадаваўся Лугаўцоў, што яго падтрымлівае сусед.

На другі дзень спрэчкі па дакладу адкрыў Уладзімір Лабанок, сакратар Палескага абкама партыі. Славуты партызанскі камбрыг з Зоркай Героя на грудзях, хударлявы, вузкаплечы, ён прыгладзіў кароткія густыя валасы і загаварыў таксама па-беларуску. І вымаўленне ў яго было больш натуральнае, чым у дакладчыка. Ды і ў голасе адчувалася шчырае абурэнне тым, што ў Мазыры беларускія школы ёсць толькі на ўскраінах, а ў цэнтры няма ніводнай, што на Палессі нельга пaглядзець фільм «Паўлінка» на той мове, на якой Янка Купала напісаў гэтую выдатную камедыю, Акадэмія навук не выдае кніг па гісторыі партызанскага руху,— акрамя блытанай і кампілятыўнай кнігі Цанавы, у нас па гэтым пытанні амаль нічога няма.

Затым падняўся на трыбуну сакратар Брэсцкага абкама Ціхан Кісялёў. І таксама гаварыў на роднай мове. Мажная пастава, адкрыты шыракалобы твар, прыгожае маўленне выдавала чалавека адукаванага, інтэлігентнага. Пачаў ён з крытыкі вышэйшых эшалонаў. Ён сказаў, што калі б у ЦК, Савеце Міністраў рэспублікі справаводства было на беларускай мове, то і ў абкамах, райкамах, аблвыканкамах і райвыканкамах яно не змагло б інакш весціся. Крытыкаваў прамоўца Міністэрства асветы, адзначыў, што ў Брэсце з чатырнаццаці школ беларускай лічыцца толькі адна.

Пракапенка ўважліва слухаў прамоўцу, сёе-тое занатоўваў для памяці, а заканчэнне прамовы Кісялёва яго развесяліла сваёй цвёрдай упэўненасцю:

— Можна не сумнявацца, што чарговыя пленумы абкамаў партыі, як і гэты пленум ЦК, будуць праходзіць на беларускай мове, і таксама, як і ў ЦК, будзе весціся справаводства на беларускай мове. І калі мы пачнём практычна карыстацца беларускай мовай, будзем пісаць і гаварыць па-беларуску, і ў школах зменяцца адносіны да беларускай мовы, і гэты недахоп, ці, правільней, памылкі ў гэтых пытаннях будуць ліквідаваны.

Старшынствуючы аб'явіў, што зараз выступіць Якуб Колас. Антон Пракапенка, які ніколі не бачыў славутага пісьменніка, парадаваўся, што пачуе яго,— будзе што расказаць калегам.

Па-старэчы згорблены — Коласу ішоў восьмы дзесятак — ён нетаропка падыходзіў да трыбуны. Пачаў глухаватым голасам, у якім чулася ўнутраная ўсхваляванасць. Спачатку адзначыў, якія адказныя і складаныя задачы стаяць перад грамадствам у развіцці культуры, мовы. Трэба сказаць, — працягваў далей народны паэт Беларусі,— што наша родная мова выходзіць з ужытку нават у такіх установах, як Акадэмія навук і Міністэрства асветы, што на дарогах рэспублікі рэдка ўбачыш паказальнік на роднай мове. Адзін масквіч любаваўся Мінскам, а потым заўважыў: «Шкада толькі, што назвы вуліц у вас пішуць з памылмі. У слове «комсомольская» пасля літары «с» напісана «а», а не «о». Аказалася, што ён прачытаў надпіс па-беларуску. Гэта смешна і сумна. Гэта значыць, што ў Мінску беларускае слова сустракаецца настолькі рэдка, што ўспрымаецца як памылка.

У зале пачуўся смех. Рагатаў і Лугаўцоў, таўхануўшы пад бок Пракапенку: «Во, дае дзядзька Якуб! Малайчына!»

Якуб Колас тым часам казаў далей, што сходы і мітынгі праводзяцца не на беларускай мове, а

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ*

# У ЧЭРВЕНІ 1953-ГА...

гаварыць з народам, рабіць перад ім справаздачы трэба на яго мове. Дайшло да таго, што пачалі заўважацца пагардлівыя адносіны да беларускай мовы, высмейванне тых, хто ёю карыстаецца. Калі ў наша выдавецтва пазванілі і спыталі: «Гэта дзяржвыдавецтва?» — з другога боку пачуўся адказ: «Нет, это госиздат»...

Многія кіраўнікі ўстаноў не разумеюць усёй важнасці належнага падбору нацыянальных кадраў. Опернаму тэатру даўно трэба перакласці на беларускую мову не толькі афішы, але і свой рэпертуар.

Дзядзька Якуб прывёў выказванне Льва Талстога, які адзначыў, што за кожнае няправільна ўжытае слова ён сек бы пісьменнікаў розгамі. Калі дастасаваць гэтае мудрае правіла да работнікаў «Звязды», дык ім давялося б чухацца пасля выхаду кожнага нумара газеты. Бо ўсім жа вядома: хто не рупіцца, у таго скура лупіцца.

У зале зноў пачуўся смех, грымнулі апладысменты. Смяяліся і члены прэзідыума, задаволена акідваў залу вострым паглядам Міхаіл Зімянін, які па настрою ўдзельнікаў пленума адчуваў падтрымку ягонага даклада. Толькі цёмнавалосы Патолічаў пахмурна глядзеў прама перад сабой.

А дзядзька Якуб працягваў сваё, і не раз яшчэ ўзнікаў смех у зале, чуліся шумныя воплескі. Сказаў ён і пра бяздумнае перайменаванне населеных пунктаў. Чаму, напрыклад, перайменавалі «Сляпянку» ў «Сцяпянку»? Незразумела, адкуль узялі назву: ад слова «стэп» ці ад слова «сцепацца». Стэпаў пад Мінскам не знойдзеш, а «сцепацца» — азначае «дрыжаць». Такім саматужным палітыкам і дзеячам трэба сказаць, што яны робяць па прыказцы: «Уткні мяне, Божа, куды мяне не трэба».

Зноў у зале пачуўся смех. Апошнія словы Якуба Коласа — «дружнай і суладнай работай мы выправім недаглядзі і допушчаныя памылкі» — патанулі ў воплесках.

У блакноце Пракапенкі ўжо значылася восем чалавек, якія выступалі ў спрэчках, калі атрымаў слова Патолічаў.

Гаварыў ён па-руску. У тыя гады з крытыкай звычайна пагаджаліся. Патолічаў пабудаваў сваё выступленне такім чынам, што нібыта ўсё прызнаваў у пастанове: прызнаваў допушчаныя памылкі, але прыводзіў канкрэтныя прыклады, якія паказвалі, што вінаваты зусім не ён. Пачалося з таго, зазначыў прамоўца, што шмат гадоў таму назад усё справаводства перавялі на рускую мову. Калі гэта было, сказаць цяжка. Адны кажуць, у 1936 годзе, іншыя — у 1937. Выкладанне ў вышэйшых навучальных установах — па-руску, колькасць беларускіх школ скарацілася. Кіруючыя работнікі рэспублікі паказвалі ў гэтай справе кепскі прыклад — яны сваіх дзяцей вучылі не ў беларускіх школах. Пра апошняе я мог бы і не казаць.

Потым прамоўца загаварыў пра сельскую гаспадарку. Прывёў такія лічбы: у 1945 годзе на працадзень калгаснікам усходніх абласцей выдалі 400 грамаў хлеба, у 1946 — 300 грамаў. У выніку на пост сакратара ЦК прыехаў таварыш Гусараў. У 1947 годзе было выдадзена калгаснікам 500 грамаў, у 1948 — 570 грамаў, у 1949 — 400 грамаў. Зноў мяняюць першага сакратара. Прыехаў таварыш Патолічаў. У 1950—1951 гадах выдавалася па 600 грамаў, у 1952 — 1 кілаграм.

Аб'явілі перапынак на пятнаццаць хвілін. Пасля перапынку выступаў старшыня Дзяржплана рэспублікі Ісак Чорны. Асноўны сэнс яго прамовы — ва ўсіх недахопах вінаваты Патолічаў. Гаварыў ён доўга, блытана. На заканчэнне з пафасам працытаваў словы Малянкова пра крытыку, якія той сказаў на XIX з'ездзе партыі, яшчэ раз упікнуў бюро ЦК за недаацэнку ўрокаў мінулага і патупаў на месца.

Кірыла Мазураў, першы сакратар Мінскага абкама партыі, не падтрымаў Чорнага і не стаў усё валіць на Патолічава. Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Пятрусь Броўка і першы сакратар Мінскага гаркама партыі Іван Варвашэня таксама падтрымалі Мазурава. Слова ўзяў Сяргей Сікорскі, першы сакратар Магілёўскага абкама партыі.

— Ну, Сяргей Іванавіч зараз урэжа. Казаў у перапынку, што вельмі разззлаваў яго Чорны,— шапнуў Лугаўцоў.

Мажны, каржакаваты, з Зоркай Героя на грудзях, былы партызанскі камандзір гаварыў рэзка, напорыста.

— Думаецца, мы маем права паставіць таварышу Чорнаму такое пытанне: ты не радавы работнік, таварыш Чорны, а ты з'яўляешся старшынёй Дзяржаўнай планавай камісіі, ты з'яўляешся намеснікам Старшыні Савета Міністраў, дык чаму ж ты тры гады нічога не бачыў, што робіцца пад кіраўніцтвам таварыша Патолічава? А нам, сакратарам, вядома, што ты быў у таварыша Патолічава на лепшым рахунку і цябе неаднаразова таварыш Патолічаў хваліў, што ты добры работнік. Дык ці нельга ў цябе запытаць, ці не ты ўводзіў у зман таварыша Патолічава? Ці не падтасоўваў яму такія лічбы? (У зале пачуліся воплескі, галасы: «Правільна»). Дык чаго ж ты толькі цяпер, пасля таго як ЦК КПСС зрабіў арганізацыйныя вывады, набраўся смеласці?

Смех і апладысменты выбухнулі ў зале. Чорны сядзеў, угнуўшы галаву. Дзівіўся: хіба ж можна абараняць чалавека, якога знялі ўжо ў Маскве, у цэнтры?

Пленум павярнуўся зусім у іншы бок. Усе, хто выступаў пасля Сікорскага, крытыкавалі не Патолічава, а Чорнага.

Пасля другога перапынку на трыбуну выйшаў Зімянін. У ягонай паставе не было ранейшай узнёсласці, у голасе не было ўпэўненасці, з якой ён пачынаў даклад. Але тое, што ён сказаў, яшчэ болей здзівіла і Антона Пракапенку і ўсіх удзельнікаў пленума.

— Дазвольце мне, таварышы, ад імя бюро ЦК КПБ унесці на разгляд пленума наступную прапанову: прасіць ЦК КПСС перагледзець той пункт пастановы ЦК ад 12 чэрвеня, які датычыцца таварыша Патолічава, і пакінуць яго першым сакратаром ЦК КПБ.

У зале заапладзіравалі. Лугаўцоў таксама гучна пляскаў у далоні. Нахіліўшыся да Пракапенкі, ён сказаў: «Правільна. Але я гэтага ніяк не чакаў. Не пагадзіцца з цэнтрам... Такога я не памятаю. Тут нешта не так. Учарашні даклад, сённяшняе першае пасяджэнне і пасяджэнне пасля перапынку — дзень і ноч. Нешта здарылася...

Тым часам Зімянін трохі праясніў сітуацыю: сказаў, што ў ходзе пленума Патолічаву і яму давялося гаварыць з таварышам Малянковым і таварышам Хрушчовым. Тыя выказалі думку, што калі пленум палічыць мэтазгодным пакінуць таварыша Патолічава, то Прэзідыум ЦК КПСС, магчыма, перагледзіць сваё рашэнне ад 12 чэрвеня. За прапанову пакінуць Патолічава першым сакратаром ЦК КПБ пленум прагаласаваў аднагалосна. Што ж адбылося ў перапынку?

◆◆◆

***АД АЎТАРА:** У гутарцы са мной у красавіку 1989 года Мікалай Яфрэмавіч Аўхімовіч, якога на тым пленуме выбралі другім сакратаром ЦК, успамінаў: «У перапынку члены бюро Патолічаў, Зімянін, Клімаў і я пайшлі ў кабінет Патолічава званіць Хрушчову. Мікіта Сяргеевіч выслухаў, папрасіў пачакаць каля тэлефона. Тады Хрушчоў яшчэ не быў першым сакратаром. Мабыць, раіўся. Потым спытаў:*

*— А якое рашэнне думаеце прыняць?*

*— Прасіць ЦК КПСС адмяніць пункт пастановы, які датычыцца Патолічава.*

*— Калі вы такое рашэнне прымеце — мы абмяркуем. — І потым дадаў: — Ёсць навіна. Мы сёння арыштавалі Берыю. Заўтра з газет даведаецеся падрабязна...*

*Паведамленне ў газетах з'явілася больш як праз два тыдні, калі адбыўся пленум ЦК КПСС. Па ўсёй краіне, і ў Беларусі таксама, пачалося абмеркаванне і ўхваленне яго рашэнняў.*

*Крамлёўскую кабіну лакаматыва савецкай імперыі заняў яшчэ адзін верны ленінец, і цягнік гіганцкай дзяржавы знешне паслухмяна пакаціў у накірунку, які цяпер прызначыў новы машыніст.*

*Леанід ЛЕВАНОВІЧ.*



